ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

№ 79(5261)
Аўторак,
17 ліпеня
2001 года

Выходзіць
з 20 снежня
1945 года

Кошт
у розніцу —
51 руб.

Што хвалюе дэлегата II з'езда настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

## У сельскія школы трэба вярнуць маладых спецыялістаў

Іван Станіслававіч Жыдзель, загадчык раённага аддзела адукацыі Іўеўскага райвыканкама, як кажуць, дамарошчаны кіраўнік. Тут, на Іўеўшчыне, ён нарадзіўся, вырас, атрымаў агульную сярэднюю адукацыю, скончыўшы Бобравіцкую сярэднюю школу. Адсюль і пайшоў "у людзі". Спачатку — у педагагічнае вучылішча, затым аддаў "священный долг Родине" — адслужыў прадугледжаны тэрмін у Савецкай Арміі і толькі пасля гэтага адчуў смак і радасць студэнцкага жыцця — стаў студэнтам Беларускага дзяржаўнага універсітэта, які паспяхова скончыў у 1976 годзе ды прыехаў працаваць на сваю малую радзіму. Звычайная біяграфія, жыццёвы шлях як і многіх яго аднагодкаў, каму сёння перавалiла за пяты дзесятак. Незвычайнасць, ці мо толькі адрозненні, у тым, што ён, дзякуючы добрасумленнасці, стаpанню, працаздольнасці і добрым ведам, паступова, але ўпэўнена рос, уздымаўся па службовай лесвіцы. Спачатку быў прызначаны настаўнікам Урцішскай васьмігодкі, затым пераведзены на пасаду настаўніка сярэдняй школы гарадскога пасёлка Юрацішкі, а з 1978 года на працягу сямі гадоў узначальваў Геранёнскую сярэднюю школу, што працавала ў былым знакамітым калгасе імя XXII партз'езда, старшынёй якога быў Герой Сацыялістычнай працы Уладзімір Аляксандравіч Баўм. Для маладога дырэктара школы было вялікае шчасце працаваць разам, поруч з выдатным арганізатарам, здольным кіраўніком, шчырым, спагадлівым чалавекам, вучыцца ў яго. Гэта была своеасаблівая сямігадовая школа, веды, набытыя ў якой так спатрэбіліся Івану Станіслававічу, калі ён у красавіку 1985 года згадзіўся ўзначаліць Іўеўскі раённы аддзел адукацыі райвыканкама і вось ужо семнаццаты год працуе на гэтай пасадзе. Працуе старанна, творча, эфектыўна, хоць умовы для працы не з лепшых, спрыяльных, мо наадварот: раён сельскагаспадарчы, прамысловых прадпрыемстваў няма, калі не лічыць драбязы, што ёсць у кожным раёне, да таго ж сама болей з усіх раёнаў Гродзеншчыны пацярпеў у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

Паколькі Іван Станіслававіч абраны дэлегатам II з'езда настаўнікаў Беларусі, то мяне цікавіла, што ён сказаў бы, якія пытанні і праблемы ўзняў бы, калі б яму на з'ездзе далі слова для выступлення, што сапраўды можа адбыцца. Бо якніяк, а яму ёсць што сказаць, падзяліцца, параўнаць сённяшняе з недалёкім мінулым, бо ўсё адбывалася на яго вачах і пры непасрэдным удзеле як кіраўніка школы, раённага аддзела адукацыі ды простага настаўніка на працягу апошніх трыццаці гадоў.

Івана Станіслававіча, як ён шчыра сказаў, хвалююць многія пытанні і праблемы, хоць пра ўсе сказаць немагчыма. Першае, падзяліцца сваімі думкамі, клопатамі, меркаваннямі. Як вядома, з-за пэўных эканамічных цяжкасцей на вёсцы у раёне з 25 дзіцячых садкоў засталося 17. Восем закрылі, а былыя дыхтоўныя будынкі кіраўнікі гаспадарак выкарыстоўваюць па сваім уласным разуменні. На сённяшні дзень Іўеўскі раён па дашкольных установах знаходзіцца ў вобласці на перадапошнім месцы, хоць разам з тым усе 55 работнікаў сельскіх садкоў маюць адпаведную адукацыю. Не можа не хваляваць і тое, што пакуль не вырашана пытанне з фінансаваннем харчавання дзяцей у адпаведнасці з прадугледжанымі натуральнымі нормамі. Інакш кажучы, цэны шалёна растуць, а фінансаванне застаецца нязменным. Дык як у такім выпадку можна карміць дзяцей па зацверджаных нормах? На думку Івана Станіслававіча, у кожным калгасе павінен быць дзіцячы садок, а там, дзе дашкалят мала, трэба, як выйсце са становішча, адкрываць дашкольныя групы пры базавых і сярэдніх школах. Гэта, у сваю чаргу, крыху знізіць выдаткі на ўтрыманне дзяцей, аднак з другога боку, запатрабуе ад дашкольных педагогаў павышэння свайго прафесійнага і адукацыйнага ўзроўню, каб разам з тым мець права і магчымасць працаваць настаўнікам. І гэтая праблема павінна вырашацца зараз, а не адкладвацца ці абмяркоўвацца, чакаць нейкага загаду "зверху".

Другая вельмі важная праблема. Рэформай школы прадугледжана вывучэнне інфарматыкі, пачынаючы з шостага класа. Што і казаць: цудоўна, бо цывілізаваны свет вырашаў гэтую праблему. Але скажыце, як з ёй можна паспяхова дайсці да ладу, калі ні ў адной базавай школе раёна дзеці і ў вочы не бачылі камп'ютэра, хоць бы састарэлага, а не тое, што на ім працавалі. Увогуле, калі шчыра, дык трэба прызнаць: вучэбна-матэрыяльная база знаходзіцца ў жабрацкім, не адпаведным патрабаванням часу стане не толькі ў базавых, але і сярэдніх школах, бо ў апошнія гады яна не падмацоўвалася з-за адсутнасці фінансавых сродкаў. А калгасы выступіць у ролі спонсараў і дапамагчы школам не могуць, бо самі знаходзяцца ў гаротным стане.

Іван Станіслававіч паведаміў, што вітае і ўхваляе ўвядзенне ў школах пасады сацыяльнага педагога і псіхолага. Аднак, лічыць ён, гэтага мала — у школах, як свежае, чыстае паветра, неабходны і педагог-дэфектолаг. А каб гэта было не пустым гукам, а явай, не губляючы часу, не разводзячы нейкім там вялікія дэбаты, трэба павялічыць прыём на стацыянарнае і завочнае навучанне на дэфекталагічны факультэт Беларускага педуніверсітэта імя Танка, а Міністэрству адукацыі "зверху" распрацаваць і давесці планы прыёму з кожнага раёна ў залежнасці ад колькасці школ і вучняў. Дарэчы, шэсць настаўнікаў з агульнаадукацыйных школ Іўеўшчыны ўжо набываюць дэфекталагічныя веды праз завочнае навучанне ў вышэйназваным педуніверсітэце.

Не ў поўнай ступені задавальняе Івана Станіслававіча агульнае, так будзем мовіць, аздараўленне дзяцей у перыяд летніх канікулаў. І ён у гэтым, на мой погляд, мае рацыю, бо сапраўды, гэта хутчэй нагадвае арганізаваны адпачынак, чым аздараўленне, паколькі сярод тых, хто там адпачывае, знаходзяцца дзеці з вельмі рознымі фізічнымі недахопамі і захворваннямі, але на гэта ніхто не звяртае ўвагі. А чаму б не адкрываць калі не цалкам профільныя летнікі, то хоць фарміраваць групы ў адпаведнасці са станам здароўя дзяцей ды замацоўваць за імі не лекараў-універсалаў, а вузкіх спецыялістаў, забяспечваючы гэтыя летнікі неабходнымі лекавымі сродкамі.

Для нашага раёна, з горыччу гаварыў мой суразмоўца, вельмі востра стаіць і праблема будаўніцтва школ. Уявіце сабе: Ліпнішкоўская сярэдняя школа будуецца ўжо больш за дзесяць гадоў, але і на сёння з-за адсутнасці сродкаў будаўніцтва не пачыналася. Тое ж самае і з фізкультурна-аздараўленчым комплексам у Іўі — гэта другі даўгабуд з такой жа барадой. А становішча з вучэбнай плошчай — у райцэнтры даволі няпростае. У сярэдняй школе дзевятнаццаць класаў вучацца ў другую змену. Урокі фізкультуры, напрыклад, у спартыўнай зале вымушаны праводзіць адначасова па тры-чатыры настаўнікі ці выкарыстоўваць калідоры. Абнадзейвала тое, што за кошт сродкаў, прызначаных на ліквідацыю чарнобыльскай навалы, будзе пабудавана новая школа на 420 месцаў. На будаўніцтва выдзелены ўсяго 25 мільёнаў рублёў, іх выкарысталі, і работы прыпыніліся. Відаць, не міне лёс даўгабуда і гэтую школу.

На думку Івана Жыдзеля, сельскаму настаўніку трэба тэрмінова вярнуць тыя льготы, што былі раней. Гэта хоць у нейкай ступені паспрыяе замацаванню маладых на вёсцы, бо ўсё ж умовы працы і жыцця сельскага настаўніка рэзка адрозніваюцца ад гарадскіх, і таму ў вёсцы настаўнікі не затрымліваюцца, не прыжываюцца, за вельмі рэдкім выключэннем. І за гэта іх мы не маем права ні папракаць, ні, тым больш, асуджаць. Здаўна існавала ў народзе выслоўе: "Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек, дзе лепш".

Згодны Іван Станіслававіч з думкамі сваіх калег, што дзяржава абавязана ўзняць прэстыж прафесіі настаўніка праз павышэнне заработнай платы і службовых акладаў усіх катэгорый педагогаў. Педагогі апынуліся ў вельмі цяжкім матэрыяльным становішчы, асабліва пенсіянеры і маладыя спецыялісты. Усё гэта стварае дрэнны, нездаровы настрой і нават адносіны да працы. Нездарма ж у асяроддзі педагогаў бытуе выраз, які стаў крылатым: "Якая плата, такая і работа". А гэта ўжо трывожна. З прычыны нізкіх заробкаў і службовых акладаў, дрэнных побытавых і сацыяльна-культурных умоў, асабліва на вёсцы, многія маладыя педагогі з вышэйшай адукацыяй кідаюць школы і ўладкоўваюцца працаваць там, дзе добра плацяць, значыць, годна можна пражыць. Зноў-такі, асуджаць іх мы не маем маральнага права, мо наадварот, варта пашкадаваць маладых людзей, што не здзейсніліся іх запаветныя мары ды надзеі і што маюць пакінуць любімую працу, пра якую марылі і снілі з дзяцінства. А на голы патрыятызм наўрад ці хто клюне, ды й ці варта гэта рабіць, тым больш цэлымі дзесяцігоддзямі.

Для нашага раёна, працягваў Іван Станіслававіч, вельмі важнай з'яўляецца і праблема падвозу дзяцей у школу і дамоў. Школы, як і калгасы, не маюць аўтобусаў, а калі ў некаторых і ёсць, то яны ў такім стане, што іх толькі на металалом. Няма і сродкаў на пакупку бензіну і ўтрыманне адзінкі шафёра. Гэтую праблему, на думку кіраўніка раённага аддзела адукацыі, пад сілу вырашыць толькі дзяржаве. Відаць, мэтазгодным было б выдзяленне калгасам аўтобусаў і, адпаведна, паліва цэнтралізаваным парадкам. Не пацерпіць у эканамічных адносінах краіна, калі ўрад прыме рашэнне аб бясплатным праездзе дзяцей у школу і дамоў на працягу навучальнага года на маршрутных аўтобусах. Крыўдна і балюча бачыць, калі паўпустыя аўтобусы мінаюць дзяцей, якія з цяжкімі заплечнікамі крочаць у школу ці са школы дамоў — шафёры не спыняюцца і не бяруць дзяцей, бо не маюць права, хоць спачуваюць ім. Дарэчы, прыгадваю шасцідзесятыя гады, калі працаваў дырэктарам Жураўскай васьмігодкі ў Ашмянскім раёне, што знаходзілася на шашы Вільня — Ашмяны, па якой штодзённа два разы на дзень хадзілі віленскія аўтобусы. Не было ніколі выпадку, каб дзяцей не падбіралі, не тое што тых, якія стаялі на аўтапрыпынку, але і тых, што крочылі ў пэўным кірунку. Менавіта літоўцы былі пачынальнікамі бясплатнага падвозу дзяцей на працягу ўсяго года, нават і ў дні канікулаў.

Гутарку можна доўжыць і доўжыць, бо праблем і пытанняў для вырашэння хапае.

**Іван ГОВАР,**
**педагог Іўеўскай дапаможнай школы-інтэрната, ветэран педагагічнай працы.**



Ансамбль акардэаністаў "Туцці" Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры пад кіраўніцтвам Людмілы Сухаваравай прымае актыўны ўдзел у жыцці універсітэта. Дзяўчаты часта выступаюць на святах горада, выязджаюць з канцэртамі па рэспубліцы. Гледачы цёпла прымаюць музыкантаў.

**Фота Аляксандра ДЗІДЗЕВІЧА, БЕЛТА.**

Меркаванне студэнткі

## Рэйтынгавая сістэма немагчыма без тэстаў?

***Рэформы зноў трымаюць курс на Захад. Еўрапейскія універсітэты ўжо даўно практыкуюць рэйтынгавую сістэму. Нам жа яна дасталася ад Масквы. Пабывала адміністрацыя журфака БДУ на канферэнцыі ў Маскве ды і прывезла адтуль ідэю рэформы: маўляў, пара і нам адчыняць вокны насустрач павевам заходняга ветру.***

Вестка пра новаўвядзенне была ўрачыста зачытана ўсім курсам і выкладчыкам. Карацей, паставілі перад фактам, што традыцыйная заліковая сесія цяпер адмяняецца. Залікі-незалікі будуць выстаўляцца ў залежнасці ад набранай студэнтамі колькасці балаў, а ў выпадку нядабору — нядопуск да экзаменаў і адлічэнне. Крытэрыі выстаўлення балаў і іх падлік вырашана было пакінуць выкладчыкам: цяпер яны змагаюцца не толькі з нядбайствам студэнтаў, але і з вялізнымі бланкамі з бясконцай колькасцю клетак, граф, падраздзелаў, куды трэба перыядычна ставіць лічбы, а потым выводзіць працэнты. Некаму гэта нават падабаецца...

Ацэньваецца літаральна ўсё, пачынаючы з наведвання заняткаў, вядзення канспектаў і заканчваючы вуснымі выступленнямі і пісьмовымі работамі ці, як модна цяпер гаварыць, тэстамі. Час ад часу, бывае, проста ў залежнасці ад прысутнасці на лекцыях ці семінарах, адзначаюцца мікразалікі, якія потым акуратна адпраўляюцца ў дэканат. Такім чынам — бесперапынныя справаздачы і статыстыка.

Студэнты самі па сабе — людзі цямкія, адразу разумеюць, дзе чаго можна чакаць. А перспектыва беспрагульнай вучобы, ды яшчэ з выкананнем усіх заданняў, прымусіла многіх адчуць сябе ніякавата. Без масавых хваляванняў справа, зразумела, не абышлася. Паўплывала аддаласць традыцыі: ад сесіі да сесіі жывуць студэнты весела — народная мудрасць як-ніяк. Крок наперад зрабілі добраахвотнікі. Пад сцягам салідарнасці і з нейкімі гнеўнымі пісьмамі з мноствам подпісаў накіраваліся яны ў дэканат і патрабавалі адмовіцца ад бесчалавечных доследаў-эксперыментаў. За што і атрымалі публічную лупцоўку, словам: што вы робіце, дзеці неразумныя, сутнасці не зразумелі, а ўжо пратэстуеце!

Вось тут я здымаю іранічны тон, таму што спасцігнуць сутнасць рэйтынгавай сістэмы сапраўды складана. Зразумела адно: акцэнт робіцца на самастойнай працы студэнта і самаадукацыі. Толькі неяк не так у нас гэта. Самастойнасць праяўляецца пакуль хіба што ў перапісванні. Студэнты бліжэй да сесіі ператварыліся — як яны самі сябе называюць — у коней, якія цягнуць вазы розных рэфератаў, курсавых работ. Балаў, вядома, не хапае, вось і перапісваюцца цэлыя падручнікі, а па сутнасці нікому не патрэбныя працэнты складваюцца ў запісы заліковых кніжак. На журфаку цяпер усе размаўляюць на "працэнтна-бальнай мове": "Мне за тры нататкі паставілі 10 балаў, а ёй усяго за адну — цэлых 15!" Рэйтынгавая сістэма адкрывае шырокае поле для суб'ектыўнай спекуляцыі адзнакамі. Нічога не хачу сказаць пра неаб'ектыўнасць (як законапаслухмяная студэнтка свята веру ў бязгрэшнасць сваіх настаўнікаў), але нейкія шчыліны, каб пралезці, усё ж ёсць.

Ды і самі выкладчыкі разбіліся на два лагеры, прычым заўзятых прыхільнікаў рэформы, здаецца, няма. Большасць заняла пазіцыю нейтралітэту: працавалі раней і будзем працягваць працаваць; трэба балы паставіць, палічыць — паставім, палічым, свет ад гэтага дагары нагамі не перакуліцца. Затое на агульным фоне вызначаюцца шчырыя прыхільнікі: універсітэт трэба не пачатковыя класы, дзе за правільныя адказы дзяцей зайчыкамі, зорачкамі адорваюць. Ва універсітэтах трэбна веды назапашваць, а не складваць у скарбонку ачкі, атрыманыя за тэсты.

Дарэчы, пра тэсты. Без іх рэйтынгавая сістэма — немагчымая, таму што звычайнымі кантрольнымі работамі і вуснымі дакладамі да патрэбнай балавай планкі не дацягнешся. Узнікае пытанне: ці адлюстроўваюць вынікі тэстаў рэальныя веды студэнтаў? Можна дастаткова добра разбірацца ў літаратуры наогул, але не ўспомніць імя героя з твора, указанага ў пытанні. Ці азначае гэта няведанне літаратуры?

Па Беларусі пракацілася хваля тэсціравання па розных прадметах. Вынікі, наколькі мне вядома, уражваюць. Яны выкарыстоўваюцца нават пры выстаўленні адзнак за сярэднюю школу. Магчыма, у гэтым выпадку ступень аб'ектыўнасці высокая — дзеці спадзяюцца толькі на сябе. Іншая справа, калі група студэнтаў у адной аўдыторыі піша які-небудзь важны тэст. Дастаткова аднаму чалавеку быць падрыхтаваным — і ўся група на гэтым выедзе. Бо ў тэстах адказы прадстаўлены ў выглядзе літар і лічбаў. Не кажучы ўжо пра тое, што лісткі з адказамі потым могуць быць выкарыстаны іншымі студэнтамі. Ды што я, на самай справе, прапісныя ісціны па пальчыках раскладваю! Нічога не мяняецца, як бы сістэма навучання ні называлася. Хоць многіх залікаў сапраўды здаваць не давялося (сяк-так у працэнтах дацягнулі) — гэта плюс. То "балы", то "працэнты" — гэта не выпадкова. Існуе неадпаведнасць і ў адзінках вымярэння. У ідэале ўсе віды работы павінны ў суме даваць 100 працэнтаў. А ў рэальнасці нейкія у.е. (умоўныя адзінкі) у кожнага выкладчыка скачуць пад сваю дудку.

Нельга адназначна сказаць, што рэйтынгавая сістэма — гэта дрэнна. Калі яе практыкуюць ва ўсім свеце, значыць, яна можа быць эфектыўнай. Толькі ў нас, на журфаку, яна яшчэ слабенькая, у зародкавым стане. Веру: праз пару гадоў студэнты-журналісты і іх выкладчыкі спасцігнуць яе сутнасць...

**Таццяна КУПРЫЯНЧЫК.**

Лета-2001

## Пад усплёскі нёманскіх хваляў

***Літаральна так ладзяць летні час вучні гродзенскіх школ у летніку "Купалінка", які штогод ладзіць для іх кіраўніцтва Рэспубліканскага унітарнага вытворчага прадпрыемства "Азот".***

Матэрыяльна-тэхнічную базу пад гэтую справу вядомае ў краіне прадпрыемства заклала грунтоўную: летніку "Купалінка" адведзены дыхтоўныя будынкі ва ўрочышчы "Грындзічы" пад Гродна, у зоне адпачынку на беразе Нёмана.

Па словах начальніка летніка Ігара Андрукевіча, кошт пуцёўкі ў "Купалінку" "цягне" на 150 тысяч рублёў, але бацькам дастаткова выкласці са сваіх кішэняў усяго толькі 15 працэнтаў ад гэтай сумы.

Ігар Здзіслававіч расказаў, што ўмовы адпачынку створаны тут найвыдатнейшыя: утульныя спальныя пакоі, каларыйнае і разнастайнае пяціразовае харчаванне. Ну, а прырода тут — дык проста маляўнічая. Адзін Нёман чаго варты!

Цяпер у летніку адпачывае 320 дзяўчынак і хлопчыкаў — другая змена, персанал установы рыхтуецца да прыёму трэцяй.

Багатай матэрыяльнай базе пасуе і змест адладжанай выхаваўчай работы. Як расказала намеснік дырэктара начальніка летніка па выхаваўчай рабоце Валянціна Брыцько, у рабочых планах супрацоўнікоў значацца мерапрыемствы па патрыятычным, эстэтычным і экалагічным выхаванні. Іх значна разнастаяць мерапрыемствы спартыўнага характару. Так, ужо стала традыцыйнай практыка правядзення на добраўпарадкаваным стадыёне летніка малых алімпійскіх гульняў, у якіх прымае удзел максімальная колькасць дзяўчынак і хлопчыкаў.

А які ўздым пануе ў летніку, калі ладзіцца шоу "Міс Купалінка" падчас святкавання Купалля, такое сугучнае з яго назвай.

Хто ж, цікава, выхавальнікі летніка? Валянціна Канстанцінаўна на гэты конт паведаміла: яго кантынгент у асноўным складаюць вопытныя педагогі шэрагу гродзенскіх школ — настаўнікі, якія пераважна маюць вышэйшую катэгорыю. Зразумела, на выхавальніцкіх пасадах працуюць таксама і студэнты-практыканты з мясцовага Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.

**Наш кар.**

Канферэнцыі

## Праводзіла заняткі пані Левандоўская

***Амаль 20 настаўнікаў польскай мовы з Гродзеншчыны бралі ўдзел у канферэнцыі "Актыўныя метады навучання польскай мове". Арганізавала яе аб'яднанне "Польска мацеж школьна на Беларусі" сумесна з аддзелам адукацыі Ашмянскага райвыканкама.***

Падчас метадычнай канферэнцыі перад настаўнікамі са Смаргоні, Астраўца і Ашмян выступалі прафесары з суполкі ўдасканалення настаўнікаў горада Седльцэ (Польшча), спецыяльна запрошаныя на гэтую канферэнцыю. Прафесар пані Левандоўская правяла практычныя заняткі.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

Конкурсы

## Няхай вам пашчасціць і ў Румыніі

***Сёлета гомельскія школьнікі атрымалі права прадстаўляць нашу краіну на міжнародным матэматычным конкурсе "Кенгуру-2001", які гэтымі днямі праходзіць у Румыніі.***

Як паведаміла рэдакцыі "НГ" адказная супрацоўніца ўпраўлення адукацыі Гомельскага гарвыканкама Людміла Кушнярова, у папярэднім адборы на выхад у фінал прынялі ўдзел 1665 вучняў з 35 школ, ліцэяў і гімназій горада. Асабліва актыўнымі былі выхаванцы школ № 1, 56, 59 Ірынінскай гімназіі.

Вызначаліся Віталь Шагас (сярэдняя школа № 22, Арцём Шрайбман (сярэдняя школа № 71), Вольга Зайцава (сярэдняя школа № 50), Ягор Цыгвінцаў і Ігар Дзегцяроў (сярэдняя школа № 56).

Усе яны цяпер знаходзяцца ў Румыніі, прымаюць непасрэдны ўдзел у заключных спаборніцтвах юных матэматыкаў

**Наш кар.**

На кантролі "НГ" — матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне ўстаноў адукацыі

## У "Глобусе" ёсць усё. Дзе ўзяць толькі грошы?

***Не за гарамі новы навучальны год. Як падрыхтавацца да яго найлепшым чынам? На дапамогу школам, ПТВ, дзіцячым садкам прыходзіць Мінскае дзяржаўнае гандлёвае прадпрыемства "Глобус". Чым жыве "Глобус" сёння? З якімі праблемамі сутыкаецца? Пра гэта — размова карэспандэнта з дырэктарам прадпрыемства Мацвеем Якаўлевічам ЮДАШКІНЫМ.***

**— Мацвей Якаўлевіч! Якая мэта дзейнасці вашага прадпрыемства?**

— Забяспечыць навучальныя ўстановы Мінска і Мінскай вобласці падручнікамі, метадычнымі дапаможнікамі, абсталяваннем. У нас сёння для гэтага ёсць усё неабходнае.

**— Значыць, можна сказаць, што навучальныя ўстановы ні ў чым не будуць адчуваць нястачы?**

— На жаль, гэта не так. Існуе праблема плацежаздольнасці школ. Аддзелы адукацыі не могуць выдзеліць грошы, патрэбныя для добрага матэрыяльнага забеспячэння навучальных устаноў. Таму, здараецца, тавар, гэткі неабходны і педагогу, і вучню, залежваецца на прылаўках магазіна.

**— А можа, тут павінна якасць прадукцыі?**

— Прадукцыя ў нас вельмі якасная. Скаргаў на якасць яе пакуль яшчэ не было. Якасць гарантуе вытворца. Напрыклад, на класную дошку даецца гарантыя на пятнаццаць (!) год. Крэйда, якую мы прапануем, выпрацоўваецца па новай тэхналогіі прадпрыемствам "Gaspar", яна не крышыцца, выдатна піша на любой паверхні...

**— Адкуль прыходзіць тавар у ваш магазін?**

— Прыборы, абсталяванне па фізіцы, калекцыі, муляжы, лабараторны посуд для ўрокаў хіміі, фізікі мы, як і шмат год таму, прывозім з Расіі. Заключаем дагаворы на прадукцыю з адпаведнымі прадпрыемствамі.

**— Але няўжо на Беларусі няма прадпрыемстваў, прадукцыя якіх задаволіла б пакупніка?**

— Безумоўна, ёсць канкурэнтаздольныя прадпрыемствы. Напрыклад, рагачоўскі завод "Дыяпраектар" вырабляе праекцыйную апаратуру — дыяпраектары, графапраектары. І хаця аналагічныя прадпрыемствы ёсць у Расіі, мы аддаём перавагу нашай, айчыннай прадукцыі. Гэта выгадна не толькі таму, што вытворца знаходзіцца блізка. Тавар з Рагачова больш якасны і ў той жа час танны.

Ці вось яшчэ прыклад. Вучэбныя мікраскопы выпускае вілейскі завод "Зеніт". Гэткія ж прыборы выпускаюць і ў Санкт-Пецярбургу. Але мы набываем мікраскопы ў Вілейцы, бо яны і якасныя, і танныя. Нават бацькі ахвотна купляюць іх за наяўныя грошы для сваіх дзяцей — цана дазваляе.

Лінгафоннае абсталяванне для школ раней прывозілі толькі з Расіі. Але з-за яго нізкай якасці і дарагавізны адно з прадпрыемстваў Мінска наладзіла выпуск сучаснага лінгафоннага абсталявання, больш таннага і якаснага. Яму мы і аддалі перавагу.

**— Якія з прапануемых вамі айчынных тавараў карыстаюцца асаблівым попытам?**

— Калі ў навучальных устаноў ёсць грошы, увесь наш тавар раскупляецца. З задавальненнем бяруць і табліцы для пачатковай школы, аўтар якіх — Ніна Уладзіміраўна Пяткевіч, і гульнявую мэблю для дзіцячых садкоў Баранавіцкай фабрыкі цацак, і гомельскія бытавыя швейныя машынкі. Вялікую цікавасць у пакупнікоў выклікаюць дапаможнікі для работы ў яслях-садках па сістэме Мантэсоры, што вырабляюцца ў Баранавічах, папяровая прадукцыя з Заслаўя, высакаякасны араматызаваны пластылін з поліэтыленавага воску мінскага прадпрыемства "Gaspar"... Але калі грошай няма, нават вострa неабходную рэч школа набыць не можа. Так, Мазырская друкарня аддрукавала класныя журналы, а ў аддзелаў адукацыі пакуль няма сродкаў, каб іх выкупіць. "Белгеадэзія" выпускае гэтак неабходныя школам карты па гісторыі, але набыць іх навучальныя ўстановы не могуць. У асобных школах у такіх выпадках на дапамогу прыходзяць спонсары. Але іх — адзінкі...

**— А як ваша прадпрыемства вырашае праблему з забеспячэннем школ падручнікамі?**

— Сёння — пік гэтай дзейнасці. Выдавецтвы пачалі актыўна выпускаць падручнікі, і наш транспарт увесь працуе на іх дастаўцы да месцаў прызначэння. Але і тут паяўляюцца праблемы: менавіта цяпер, у гэты гарачы перыяд, школы закрыты, настаўнікі і бібліятэкары ў водпусках. Часам нават няма каму здаць прывезеныя кнігі, і машыны з імі вяртаюцца назад. А між тым мы заўсёды папярэджваем аддзелы адукацыі за некалькі дзён, што будзем развозіць па школах падручнікі...

...Неабходную навучальным установам прадукцыю — якасную, сучасную — разнастайнае абсталяванне, наглядныя дапаможнікі, цікавыя энцыклапедыі, слоўнікі, даведнікі, дакладныя прыборы і шмат іншых, вельмі карысных вырабаў — прапануе сёння "Глобус". Але як гэтым рэчам знайсці шлях да кожнай школы, ПТВ, садка?

**Святлана МІЦКЕВІЧ.**

## Інструктыўна-метадычныя пісьмы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь на 2001 - 2002 навучальны год

# Аб рабоце педагагічных калектываў устаноў сістэмы спецыяльнай адукацыі ў 2001-2002 навучальным годзе

У 2001-2002 навучальным годзе працягваецца рэфармаванне сістэмы спецыяльнай адукацыі. У адпаведнасці з Канцэпцыяй рэфармавання спецыяльнай адукацыі і Праграмай рэфармавання працягваецца этап навукова-метадычнага і вучэбнага забеспячэння карэкцыйна-развіваючага і рэабілітацыйнага працэсу, працягваецца ўкараненне інавацыйных педагагічных тэхналогій. Ствараюцца ўмовы для аказання дапамогі ў сацыяльнай рэабілітацыі і адаптацыі асоб з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця, падрыхтоўцы іх да паўнацэннага жыцця ў грамадстве.

Асноўны змест практычнай дзейнасці педагагічных калектываў агульнаадукацыйных, санаторных і спецыяльных школ-інтэрнатаў усіх тыпаў, спецыяльных класаў і класаў інтэграванага навучання, цэнтраў карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі ў 2001-2002 навучальным годзе вызначаецца наступнымі нарматыўна-прававымі дакументамі:

— Законам Рэспублікі Беларусь "Аб правах дзіцяці";

— Дзяржаўнай праграмай па прадухіленні інваліднасці і рэабілітацыі інвалідаў на 2001-2002 гг., адобранай Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 19.01.2001г. №68;

— Канцэпцыяй рэфармавання спецыяльнай адукацыі, зацверджанай загадам Міністэрства адукацыі ад 17.11.1999г. № 8/1462;

— Праграмай рэфармавання спецыяльнай адукацыі і мерапрыемствамі па яе рэалізацыі, зацверджанымі загадам Міністэрства адукацыі ад 31.08.2000 г № 37;

— Пастановай Савета Міністраў "Аб мерах па паляпшэнні арганізацыі харчавання дзяцей і навучэнскай моладзі ва ўстановах адукацыі і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь" ад 21.04.2001г. № 584. Кіраўнікам спецыяльных устаноў неабходна звярнуць пільную ўвагу на стварэнне пастаянна дзеючага кантролю за ўмовамі харчавання ва ўстановах сістэмы спецыяльнай адукацыі;

— Вучэбнымі планамі санаторных і агульнаадукацыйных школ-інтэрнатаў на 2001-2002 навучальны год, зацверджанымі загадам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь № 366 ад 29.06.2001г.;

— Вучэбнымі планамі спецыяльных агульнаадукацыйных школ-інтэрнатаў, школ, класаў, зацверджанымі Загадам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь № 365 ад 29.06.2001г.;

— Загадам Міністэрства адукацыі №166 ад 10.03.2000 года "Аб пераходзе спецыяльных агульнаадукацыйных школ-інтэрнатаў, школ, класаў, класаў інтэграванага навучання на новыя і ўдасканаленыя праграмы, падручнікі і вучэбныя дапаможнікі;

— Прыкладным палажэннем аб пункце карэкцыйна-педагагічнай дапамогі ад 20.11.2000г., № 53;

— Агульнымі палажэннямі вучэбнага плана агульнаадукацыйнай школы на 2001-2002 навучальны год, зацверджанымі загадам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 20.06.2001г. №311;

— Інструктыўна-метадычным пісьмом аб арганізацыі работы ў класах інтэграванага навучання і асаблівасцях тарыфікацыі і аплаты настаўнікам, якія працуюць у гэтых класах ад 24. 08. 1998г. № 26-06/62;

— Загадам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь № 550 ад 05.10.1998г. "Аб часовых нормах ацэнкі ведаў, уменняў і навыкаў вучняў спецыяльных агульнаадукацыйных школ";

— Загадам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 14.08.1998г. №4990 "Аб адзіным моўным і арфаграфічным рэжыме спецыяльнай агульнаадукацыйнай школы-інтэрната, школы, класа";

— Загадам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь "Аб канкрэтызацыі шляхоў камплектавання вучнямі санаторных школ-інтэрнатаў, удасканаленні лячэбна-аздараўленчай работы ў іх" ад 06.05.1999г. №266;

— Рэкамендацыямі па арганізацыі прыкладнага распарадку дня санаторнай школы-інтэрната, зацверджанымі загадам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 30.06.1999г. №427;

Пералік падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў, якія могуць быць выкарыстаны ў агульнаадукацыйных школах (класы інтэграванага навучання), спецыяльных школах, дашкольных установах, прафесійна-тэхнічных вучылішчах (групы навучэнцаў з псіхафізічнымі парушэннямі) ў 2001 — 2002 навучальным годзе, даецца ў "Зборніку нарматыўных дакументаў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь" № 5 за 2001 год. У новым навучальным годзе працягваецца фарміраванне заказу на сродкі навучання. Абласным, Мінскаму гарадскому ўпраўленням адукацыі, кіраўнікам спецыяльных школ-інтэрнатаў, школ неабходна падаць у Навукова-метадычны цэнтр вучэбнай кнігі і сродкаў навучання заяўку, якая складаецца на аснове аналізу "Тыповага пераліку сродкаў навучання і вучэбна-вытворчага абсталявання для агульнаадукацыйных і спецыяльных школ, дашкольных устаноў, прафесійна-тэхнічных вучылішчаў", з пералікам неабходных для гэтых устаноў карэкцыйных сродкаў навучання.

Падрыхтаваны да выдання праграмы і вучэбна-метадычныя матэрыялы. У 2001 — 2002 навучальным годзе выйдуць з друку праграмы для пачатковых класаў спецыяльных школ:

Дапаможная школа (падрыхтоўчы, 1-4 класы)

1.Руская мова (для школ з рускай і беларускай мовамі навучання).

2.Беларуская мова (для школ з рускай і беларускай мовамі навучання).

3.Матэматыка (на рускай і беларускай мовах).

4. Чалавек і свет (на рускай і беларускай мовах).

5. Музыка (на рускай і беларускай мовах).

6. Выяўленчае мастацтва (на рускай і беларускай мовах).

7. Фізічная культура (на рускай і беларускай мовах).

Школа для дзяцей з цяжкімі парушэннямі мовы
і для дзяцей з затрымкай псіхічнага развіцця
(падрыхтоўчы, 1-4 класы)

1. Беларуская мова (для школ з рускай і беларускай мовамі навучання).

2. Руская мова(для школ з рускай і беларускай мовамі навучання).

3. Матэматыка (на рускай і беларускай мовах).

4. Чалавек і свет (на рускай і беларускай мовах).

5. Музыкальна-рытмічныя заняткі (на рускай і беларускай мовах).

6. Выяўленчае мастацтва (на рускай і беларускай мовах).

### Школа для дзяцей з парушэннем слыху (падрыхтоўчы, 1-4 класы)

1.Руская мова.

2.Матэматыка (на рускай мове).

3.Чалавек і свет (на рускай мове).

4.Жэставая мова (на рускай мове).

5. Выяўленчае мастацтва (на рускай мове).

6. Рытміка (на рускай мове).

Звяртаецца ўвага на тыя змяненні, якія адбыліся ў працэсе навучання і выхавання дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця ў сувязі з рэфармаваннем спецыяльнай адукацыі:

— павялічаны тэрмін навучання дзяцей з псіхафізічнымі парушэннямі за кошт увядзення падрыхтоўчых класаў;

— прадугледжана варыянтнасць спецыяльнай адукацыі ў залежнасці ад псіхафізічнага развіцця, індывідуальных асаблівасцей і магчымасцей вучняў;

— у вучэбных планах усіх тыпаў спецыяльных школ удакладнены і скарэкціраваны гадзіны карэкцыйнага кампаненту, што дазваляе аказваць неабходную спецыяльную псіхолага-педагагічную, у тым ліку і лагапедычную, дапамогу і падтрымку;

— ствараецца і ўкараняецца навукова-метадычнае забеспячэнне карэкцыйнага працэсу прымяняльна да розных катэгорый дзяцей з парушэннямі развіцця;

— паспяхова распрацоўваюцца адукацыйныя тэхналогіі і ў школах ствараюцца ўмовы для іх рэалізацыі;

— для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця ствараюцца роўныя, як і для іх здаровых аднагодкаў, магчымасці для адукацыі, максімальнай адаптацыі і паўнацэннай інтэграцыі ў грамадстве;

— на пунктах карэкцыйна-педагагічнай дапамогі дзеці атрымліваюць не толькі лагапедычную, але і спецыяльную псіхолага-педагагічную дапамогу ў пераадоленні спецыфічных парушэнняў школьных навыкаў у чытанні, пісьме, матэматыцы, а таксама сэнсорных парушэнняў;

— дзеці з цяжкімі шматлікімі парушэннямі атрымліваюць комплексную дапамогу на аснове яе персаніфікацыі і дыферэнцыяцыі ў цэнтрах карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі.

Працягвае ўдасканальвацца дзейнасць цэнтраў карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі. Прыняты:

— Прыкладнае палажэннем аб цэнтры карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі, зацверджанае загадам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь №559 ад 31.08.1999г.;

— Пастанова Савета Міністраў №1560 ад 11.10.2000г. "Аб забеспячэнні бясплатным харчаваннем дзяцей, якія маюць шматлікія парушэнні развіцця і навучаюцца ў цэнтрах карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі". Згодна з ёй, дзеці, якія наведваюць групы ў цэнтрах, забяспечваюцца двухразовым гарачым харчаваннем за кошт сродкаў мясцовага бюджэту;

— Пастанова Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь №58 ад 12.12.2000г. "Аб унясенні дапаўненняў і змяненняў у прыкладнае палажэнне аб цэнтры карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі".

Цэнтры карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі разглядаюцца як новы тып вучэбнай установы, дзе ажыццяўляецца комплексная медыка-сацыяльная і псіхолага-педагагічная дапамога і ствараюцца бяспечныя ўмовы для жыццядзейнасці дзяцей. Задача цэнтраў—паменшыць колькасць тых дзяцей, якія не навучаюцца і лічацца сацыяльна неперспектыўнымі. Дзеці з цяжкімі шматлікімі парушэннямі могуць і павінны навучацца ў межах сваіх магчымасцей.

Яны могуць займацца па мадыфікаваных праграмах спецыяльных школ, якія забяспечваюць навучанне чытанню, пісьму, лічэнню, уключэнне ў гаспадарча-бытавую працу і фарміраванне сацыяльна-бытавых навыкаў. Для асобных дзяцей ствараюцца індывідуальныя адукацыйна-рэабілітацыйныя праграмы, якія ў працэсе работы могуць удакладняцца, змяняцца ў інтарэсах дзіцяці. Выбар педагагічнага матэрыялу вызначаецца яго практычнай значнасцю і пазнавальнымі магчымасцямі вучняў. У іх фарміруюцца, у першую чаргу, рухальная мабільнасць, навыкі самаабслугоўвання, сацыяльныя ўзаеміны.

Важным з'яўляецца далучэнне да рэабілітацыйнага працэсу бацькоў, каб дзеці, нават са значнымі парушэннямі, набывалі элементарную сацыяльна-бытавую кампетэнцыю.

Галоўным напрамкам работы спецыяльнай школы і інтэграванай адукацыйнай установы з'яўляецца падрыхтоўка вучняў з асаблівасцямі развіцця да незалежнага самастойнага жыцця. Старшакласнікі набываюць навыкі сацыяльных узаемін, уменні праяўляць ініцыятыву, выказваць свае пажаданні. Рэалізацыя азначанай праграмы патрабуе вызначэння неабходнага аб'ёму ведаў, уменняў і навыкаў, сфарміраванасці пэўных каштоўнасных арыентацый і здольнасці да выканання дзейнасці, неабходнай у паўсядзённым жыцці.

У сучасных умовах змяняюцца адносіны паміж удзельнікамі вучэбнага працэсу. Ад суб'ектна-аб'ектных яны пераходзяць да суб'ектна-суб'ектных. Вучань робіцца паўнапраўным удзельнікам вучэбна-выхаваўчага працэсу. Змяняецца роля настаўніка: ад трансляцыі ведаў ён пераходзіць да аказання дапамогі вучням у іх набыцці. У сувязі з гэтым актуальнай стала задача пошуку іншых адукацыйных мадэляў і форм арганізацыі адукацыйнага працэсу. Станоўча зарэкамендавалі сябе педагагічныя тэхналогіі калектыўнай арганізацыі і ўзроўневай дыферэнцыяцыі вучэбна-выхаваўчага працэсу, гуманна-асобасная тэхналогія. Настаўнік засяроджвае ўвагу на арганізацыі ўзаемадзеяння вучняў, шырока выкарыстоўвае інтэрактыўныя метады навучання, забяспечвае станоўчую эмацыянальную аснову вучэбнага працэсу, своечасова ажыццяўляе педагагічную дапамогу і падтрымку.

Вялікая ўвага надаецца інтэграванаму навучанню. У агульнаадукацыйных установах ствараецца адэкватнае адукацыйнае асяроддзе, якое забяспечвае атрыманне дзецьмі з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця неабходных ведаў і аказанне карэкцыйна-педагагічных паслуг.

Рэфармаванне сістэмы выхавання забяспечвае пераадоленне сацыяльнай ізаляванасці вучняў і рэалізацыю ідэй гуманізацыі, дэмакратызацыі і персаніфікацыі выхаваўчага працэсу. Гуманістычная аснова навучання і выхавання вызначаецца запатрабаваннямі і інтарэсамі асобы. У сваёй сукупнасці гуманістычныя сродкі садзейнічаюць фарміраванню свядомасці адчуванняў і паводзін выхаванцаў. Гуманізацыя спецыяльнай адукацыі прадугледжвае павагу да асобы кожнага дзіцяці. Школа дапамагае яму адаптавацца ў навакольным свеце, пераадолець цяжкасці ва ўзаемінах з аднагодкамі і дарослымі, вучыць яго правільна ацэньваць свае ўчынкі і дзеянні. У гэтых мэтах дзеці атрымліваюць дыферэнцыяваную дапамогу на працягу ўсяго перыяду навучання, ім ствараюцца ўмовы для максімальна магчымай самарэалізацыі. Выбар спосабаў, прыёмаў, тэмпу навучання і выхавання абумоўліваецца структурай парушэння і індывідуальнымі асаблівасцямі дзіцяці.

З мэтай далейшага развіцця інавацыйных працэсаў у спецыяльнай адукацыі ў 2001-2002 навучальным годзе праводзяцца:

Рэспубліканскія гульні для дзяцей з парушэннямі апорна-рухальнага апарату і для дзяцей з цяжкімі і камбінаванымі парушэннямі;

VI Рэспубліканскі фестываль мастацкай творчасці выхаванцаў дзіцячых дамоў, школ-інтэрнатаў "Вясёлкавы карагод". Задачамі фестывалю з'яўляецца фарміраванне ў кожным дзіцячым доме, школе-інтэрнаце сістэмы эстэтычнага і патрыятычнага выхавання дзяцей сродкамі беларускай нацыянальнай культуры і мастацтва; узбагачэнне духоўнага свету выхаванцаў лепшымі здабыткамі роднага слова, культуры і мастацтва славянскіх народаў; вывучэнне народнай творчасці рэгіёна.

Пры БДПУ імя Максіма Танка, а таксама ў Акадэміі паслядыпломнай адукацыі ў 2001-2002 навучальным годзе працягваецца падрыхтоўка спецыялістаў-дэфектолагаў з прысваеннем другой вышэйшай адукацыі з ліку асоб, якія маюць вышэйшую педагагічную адукацыю і працуюць у спецыяльных школах, класах і групах, класах інтэграванага навучання, цэнтрах карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі, пунктах карэкцыйна-педагагічнай дапамогі, спецыяльных дашкольных установах.

З мэтай актывізацыі дзейнасці педагагічных калектываў па забеспячэнні асобасна арыентаванай і сацыяльна накіраванай спецыяльнай адукацыі, у 2001-2002 навучальным годзе праводзяцца наступныя рэспубліканскія мерапрыемствы:

— Міжнародная канферэнцыя "Сучасная спецыяльная адукацыя: стан і перспектывы развіцця";

— Навукова-метадычны семінар "Інавацыі ў карэкцыйным навучанні дзяцей з інтэлектуальнай недастатковасцю ў святле рэфармавання спецыяльнай адукацыі ";

— Семінар-практыкум "Карэкцыйная работа ва ўмовах інтэграванага навучання";

— Семінар-практыкум "Крытэрыі ранняга выяўлення псіхічных і нервова-псіхічных парушэнняў у дзяцей і падлеткаў";

— Семінар-практыкум "Эфектыўнасць выкарыстання педагагічных тэхналогій ва ўмовах інтэграванага навучання".

# Русский язык и литература

В 2001-2002 учебном году продолжается переход на новое содержание языкового и литературного образования.

Преподавание русского языка в новом учебном году будет осуществляться в соответствии с программами для школ с белорусским и русским зыком обучения 2001 года издания. В сборнике помещены программы для 12-летней и 11-летней общеобразовательных школ. По программам 12-летней школы будут работать учителя, принимающие в 2001-2002 учебном году выпускников III модели начальной школы. Учителя, работающие в режиме 11-летней школы, планируют учебный материал по соответствующей программе.

### Количество часов на изучение русского языка и литературы в 2001-2002 учебном году

| Учебные предметы | Количество часов в неделю по классам | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 4 класс 12-летней школы | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | | 11-летней школы | | | | | | |
| Русский язык (школы с белорусским языком обучения) | 3 | 3 | 3 | 3 | 2 | 2 | 1 | 1 |
| Русский язык (школы с русским языком обучения) | 4 | 5/4 | 5/4 | 3 | 2 | 2 | 1 | 1 |
| Литература (школы с белорусским языком обучения) | 2/1 | 1/2 | 2 | 1/2 | 2 | 2 | 3 | 3 |
| Литература (школы с русским языком обучения) | 2 | 2 | 2 | 2/3 | 3/2 | 3/2 | 3 | 3 |

При преподавании русского языка необходимо пользоваться следующими учебниками:

4 КЛАСС (12-летняя школа — "Русский язык. Культура устной и письменной речи", Л.А.Мурина, Ф.М.Литвинко, Г.И.Николаенко, 2001 год издания;

5 КЛАСС — "Русский язык. Культура устной и письменной речи", Л.А.Мурина, М.П.Дубограева, Ф.М.Литвинко, Г.И.Николаенко, 1997, 2001 гг. издания;

6 КЛАСС — "Русский язык. Культура устной и письменной речи", П.П.Шуба, Л.А.Мурина, О.Н.Белявская и др., 1996, 1999 г. издания;

7 КЛАСС — "Русский язык. Культура устной и письменной речи", Т.Н.Волынец, Е.Е.Долбик, Ф.М.Литвинко и др., 1997, 1999 г. издания;

8 КЛАСС — "Русский язык. Культура устной и письменной речи", Е.Е.Долбик, Н.И.Конюшкевич, Ф.М.Литвинко и др., 1998, 2001 г. издания;

9 КЛАСС — "Русский язык. Культура устной и письменной речи", П.П.Шуба, Е.Е.Долбик и др., 1999, 2001 г. издания.

В 10-11 классах, а также в классах с углубленным изучением языка рекомендуются следующие учебники:

"Русский язык" (для учащихся старших классов), Р.Г.Чечет, 1997, 1999 г. издания;

"Русский язык" (Фонетика. Словообразование), А.В.Никитевич и др., 1998 г. издаия;

"Русский язык" (Морфология), П.П.Шуба и др., 1996 г. издания;

"Русский язык" (Синтаксис), М.И.Конюшкевич и др.; 1 часть — 1997 г. издания, 2 часть — 2000 г. издания.

В 11 классе учителя работают по праграммам, предложенным в сборниках 2001 года, либо по программам, составленным педагогами с учетом интересов и потребностей учащихся конкретных классов (такие программы должны быть заверены администрацией школы и утверждены в рай(гор)отделе образования). Выпускники 11 классов по окончании 2001-2002 учебного года во время экзаменов пишут диктант.

Примерное планирование учебного материала в 4 классе 12-летней школы предложено в журнале "Русский язык и литература" (2201 г. — №2), 5-6 классах 11-летней школы — (1996 г. — №2, 4, 5, 1997 г. — №7, 8, 1998 г. — 3, 1999 г. — №4). Но это не означает, что данный материал может заменить календарно-тематическое планирование по предметам. Каждый урок должен иметь свою тему, в качестве формулировок могут служить названия параграфов либо положения программы.

Работая по программам 2001 года издания, следует внимательно вчитываться в аннотации к темам, не требовать от учащихся заучивания материала, предлагаемого для ознакомления. Например: в 4 классе 12-летней школы нормы русского литературного языка, качество речи, связь слов в словосочетании, предложения с двумя и с одним главным членом предложения, второстепенные члены предложения, раздел "Текст" рекомендованы для ознакомления.

Учителям, принимающим выпускников III модели начальной школы (4 класс 12-летней школы) и пятиклассников 11-летней школы, рекомендуем внимательно ознакомиться с объемом языкового материала, усвоенного учащимися в начальной школе (см. объяснительную записку к программам).

При ознакомлении с разделом "Текст" учитель имеет право распределить информацию на весь учебный год в связи с изучением языкового материала на коммуникативно-деятельностной и жанрово-коммуникативной основах.

Обращаем внимание на количество часов, проставленное при изучении данного раздела. Например, 8 + 8 часов: 8 часов отводится на изучение (ознакомление) материала, связанного с понятием "текст", и 8 часов — на изучение жанров речи.

При формулировке целей необходимо помнить о коммуникативно-деятельностной основе обучения русскому языку. Вследствие этого глагольные формы целеполагания должны носить деятельностный характер: "доказать", "исследовать", "научиться делать", "выяснить", "определить", а не "дать понятие о ...".

Методические рекомендации авторов учебников по каждому разделу программы регулярно печатались на страницах журнала "Русский язык и литература".

В 2001 году планируется издание следующих методических пособий, которые войдут в состав учебно-методических комплексов по русскому языку:

1. Ковалева Е.С. Сборник диктантов. 8-9 классы.-Мн.:Народная асвета.

2. Русский язык в текстах и комментариях./Под ред.Шубы П.П.-Мн.:Современное слово.

3. Китаева Т.В. Дидактические материалы по русскому языку. 5-7 классы.-Мн.:Лексис.

4. Скаковский В.Д. Справочник по русской орфографии.-Мн.:Юнипресс.

5. Строк Л.И. Графическая наглядность на уроках русского языка. 6 класс.-Мн.:Экоперспектива.

6. Мурина Л.А. и др. Обучение русскому языку в 5 лассе.-Мн.: Экоперспектива.

7. Трофимович Т.Г. и др. русский язык в терминах и понятиях.-Мн.:БелЭН.

8. Строк Л.И. Опорные конспекты к учебнику "Русский язык. Культура устной и письменной речи, 8 класс."-Мн.:Лексис.

9. Волынец Т.Н. и др. Контрольные тесты по русскому языку, 5-9 класы.-Мн.:Сэр-Вит.

10.Строк Л.И. Контрольные и проверочные работы по русскому языку, 7 класс.-Мн.:Лексис.

К 2001/2002 уебному году будут изданы следующие пособия, которые войдут в учебно-методический комплекс для 4 класса 12-летней школы:

1. Китаева Т.В. Тетрадь для самостоятельной работы по русскому языку.

2. Строк Л.И. Практический материал по русскому языку.

3. Строк Л.И. Опорные конспекты к учебнику "Русский язык. Культура устной и письменной речи".

В новом учебном году продолжается переход на новое содержание литературного образования школьников.

Преподавание литературы будет осуществляться по программам, выпущенным научно-методическим центром учебной книги и средств обучения в 2001 году.

Рекомендуются следующие учебники:

4 класс 12-летней школы — "Русская литература", Каратай С.Н., Мушинская Т.Ф., Перевозная Е.В., 2001 г. издания;

5 класс 11-летней школы — "Литература", Каратай С.Н., Мушинская Т.Ф., Перевозная Е.В., 1997, 2001 г. издания;

6 класс - "Литература", Каратай С.Н., Мушинская Т.Ф., Перевозная Е.В., 1997, 1999 г. издания;

7 класс — "Литература", Петровская Л.К., 1997, 1999 г. издания;

8 класс — "Литература", Каратай С.Н. и др., 1998, 2000 г. издания;

9 класс — "Литература", Перевозная Е.В., Каратай С.Н., Ковалева Н.Н., 1999, 2001 г. издания;

10 класс — "Русская литература", Усольцева Т.Н. и др., 2001 г. издания.

Особое внимание следует обратить на преподавание литературы в старших классах. Из-за несвоевременного выхода из печати учебника для 10 класса рекомендуется пользоваться учебником "Литература" Ю.В.Лебедева. С выходом из печати национального учебника изучение литературы будет осуществляться по учебнику "Русская литература" под редакцией Усольцевой Т.Н.

Для 11 класса рекомендуются следующие учебники:

"Русская литература XX века" в 2-х частях под редакцией В.П.Журавлева; 1997, 1998 г. издания;

"Русская литература XX века. Очерки, портреты, эссе." В 2-х частях под редакцией Ф.Ф.Кузнецова; 1991, 1993 г. издания.

Запланировано издание книг серии "Школьная библиотека":

1. С.Михалков и др. Басни.
2. У.Шекспир. Гамлет. Король Лир и др.
3. Н.Гоголь. Мертвые души.
4. О погибших помните... Рассказы и повести о войне.
5. А.Островский. Пьесы.
6. Лирика XX века.
7. И.Бунин. Повести.
8. Сборник сказок зарубежных писателей.
9. Сборник. Пьесы-сказки.
10. Сборник. Литературные баллады.
11. А.Солженицин. Матренин двор и др.
12. В.Короленко. Повести.
13. В.Шукшин. Рассказы.
14. Лирика. А.Ахматова. Б.Пастернак.
15. В.Кондратьев и др. Сборник рассказов.

Изданы учебно-методические пособия:

1. Корякушкина В.А. Тесты по литературе, 6 класс.-Мн.:Техноперспектива.

2. Мушинская Т.Ф. Русская литература в вопросах и ответах.-Мн.:Аверсэв.

3. Капшай Н.П. Работа над поэтическим текстом в школе.-Мн.: Адукацыя і выхаванне.

4. Усольцева Т.Н. и др. Анализ лирического текста в школе.-Гомель:СОЖ.

5. Каратай С.Н. и др. Уроки русской литературы в 4 классе (для 12-летней школы).-Мн.:НМЦентр.

Приступая к работе в новом учебном году, рекомендуем внимательно изучить объяснительную записку к программе.

В сборниках программ помещены также программы по русскому языку и литературе для школ с углубленным изучением предметов, даются программы факультативных курсов, курсов по выбору. Учитель имеет право предложить свою программу факультативного курса, курса по выбору, составленную с учетом запросов учащихся.

Требования, предъявляемые к оформлению работ, ведению и проверке тетрадей, оцениванию устных и письменных работ, изложенных в "Нормах оценки знаний, умений и навыков учащихся" (см.Сборник программ по русскому языку, "Сборник нормативных документов" №2, 1996 г. "Русский язык и литература", 2, 1996 г.).

На 2001-2002 учебный год для учителей русского языка и литературы Академией последипломного образования запланированы следующие мероприятия:

1. Целевые курсы руководителей методических объединений "Переход на новое содержание литературного образования в 11 классе" (апрель-июнь 2002 года).

2. Семинар "Технология модульного обучения на уроках русского языка" (ноябрь 2001 года).

3. Семинар "Новое прочтение произведений классической литературы" (декабрь 2001 года).

4. Семинар "Педагогические мастерские: сотворчество учителя и ученика" (март 2002 года).

